**Выдавец:**
Прыватнае прадпрыемства «Дарога на Вільню плюс», пасв. №391053932, выд. 12.10. 2009 г. Глыбоцкім РВК.
Перыядычнасць – 1 раз на тыдзень, дзень выхаду – чацвер.

**Выдаецца са снежня 1994 года**

**№ 18 (943) 3 траўня 2018 года.**
**Кошт свабодны.**

*Са святам вялікай Перамогі!*

vglybokaye@tut.by

# Вольнае Глыбокае











## Мінімальныя працоўныя і сацыяльныя пенсіі, надбаўкі, павышэнні і даплаты да іх вырастуць з 1 мая

Пастановай Мінпрацы і сацабароны ад 24 красавіка 2018 года нумар 47 БПМ з 1 мая па 31 ліпеня 2018 года ў разліку на месяц устаноўлены ў памеры Br206,58. Новы БПМ павысіўся на 3,6 працэнта ў параўнанні з нарматывам, якія дзейнічаў з 1 лютага па 30 красавіка бягучага года (Br199,32), адпаведна павялічваюцца і памеры пенсійных выплат.

Памеры бюджэту пражытачнага мінімуму ў сярэднім на душу насельніцтва і па асноўных сацыяльна-дэмаграфічных групах (у цэнах сакавіка 2018 года): у сярэднім на душу насельніцтва – Br206,58, працаздольнае насельніцтва - Br229,78, пенсіянеры - Br157,5, студэнты - Br199,75, дзеці ва ўзросце да 3 гадоў - Br132,98, дзеці ва ўзросце ад 3 да 6 гадоў - Br183,35, дзеці ва ўзросце ад 6 да 18 гадоў - Br223,91.

*Паводле БелТА.*

ISSN 2077-8023








Нашы ветэраны!

*Фота Ул. Скрабатуна.*













**Газету «Вольнае Глыбокае» можна выпісаць на 1-е паўгоддзе 2018 г ва ўсіх паштовых аддзяленнях «Белпошты» Віцебскай вобласці.**

**Індэксы выдання**: **індывідуальная –** 63668, кошт падпіскі на 1 месяц – 3 руб. 67 кап.; **ведамасная –** 636682 , кошт падпіскі на 1 месяц – 7 руб. 39 кап.

## Браслаўскі раён

# Вясна – гарачая пара

■ Чэслаў Якубовіч

**Штогод у сярэдзіне красавіка для хлебаробаў Віцебшчыны наступае напружаная пара, услед за іншымі рэгіёнамі яны пачынаюць сяўбу яравых зерневых.**

Праўда, два апошнія гады былі вельмі складанымі для вяскоўцаў, бо няўстойлівае надвор'е вельмі перашкаджала весці палявыя работы. Па гэтай прычыне сёлета ў сельгаспрадпрыемстве "Друйскі" Браслаўскага раёна неабходна ў сціслыя тэрміны пасеяць яравых культур на плошчы 1200 гектараў. Як і ў іншых месцах, зрабіць гэта аказалася няпроста, бо на многіх участках было сыра і мокра. Тэхніка туды не магла ўз'ехаць, але механізатары не сядзелі без справы. Яны ўзаралі ўсю глебу, вялі яе культывацыю і догляд пашаў, куды былі выгнаны першыя чатыры статкі кароў. Пачалі сяўбу ў гэтай гаспадарцы з урочышча Васілёва, дзе землі найбольш прыдатныя і сухія. Для работ у полі ўдалося набыць 10 тон элітнага насення ячменю і аўса. Дастаткова было для паспяховага правядзення сяўбы і тэхнікі, галоўнае, каб толькі надвор'е болей не падводзіла. Такой гарачай парой хлебаробы настроены паўсюдна на плённую працу і стараюцца дабіцца высокай выпрацоўкі, нарэшце, добра зарабіць. Як і раней, на пасяўной працаўнікоў двойчы на дзень кормяць гарачым харчаваннем, якое абыходзіцца ўсяго за 1,5 рубля. Астатнія расходы на ежу аплоціць сама гаспадарка. Дарэчы, у вобласці перад пачаткам сяўбы гаспадаркі атрымалі яшчэ каля ста адзінак тэхнікі, у тым ліку і энерганасычаных трактароў замежнай вытворчасці. Пры спрыяльным надвор'і ёсць магчымасць да 9 мая адсеяцца ў большасці гаспадарак Прыдзвіння і атрымаць восенню максімальны ўраджай.

## Міёрскі раён

# Самы шчаслівы дзень

■ Станіслаў Раманчук

**Недабудаваны новы корпус цэнтральнай раённай бальніцы ў Міёрах шмат гадоў сведчыў толькі аб хібах айчыннай эканомікі.**

Некалькі разоў узвядзенне вельмі патрэбнага жыхарам раёна аб'екта то аднаўлялася, то потым спынялася з-за недахопу сродкаў. Мінулы год, на шчасце, стаў пераломным у лёсе гэтай шматпакутнай клінікі пасля ўмяшання ў сітуацыю камітэта Дзяржкантролю Беларусі. Перад трэстам "Полацксельбуд" была пастаўлена задача здаць яе сёлета ў маі ў эксплуатацыю, а віцэ-прэм'ер урада Васіль Жарко загадаў будаўнікам падчас візіту сюды актывізаваць працу, бо бальніца вельмі патрэбная людзям. Адначасова побач з райцэнтрам шпаркімі тэмпамі будуюць сучасны металургічны завод па выпуску белай бляхі. У красавіку ў доўгачаканай ЦРБ была скончана праца на асноўным лячэбным корпусе і ў харчовым блоку, закончана і аддзелка памяшканняў. З радасцю людзі прадоўжылі пачатую яшчэ летась працу па добраўпарадкаванні тэрыторыі. Мясцовых урачоў найбольш парадавала, што для новай бальніцы завезлі патрэбны лічбавы рэнтгенапарат і інкубатар для нованароджаных. Усяго ж у трохпавярховым корпусе плошчай звыш 6 тысяч квадратных метраў размесціцца пяць аддзяленняў – хірургіі, тэрапіі, рэанімацыі, акушэрскае і аперацыйная. У будучым збіраюцца ўзвесці таксама і паліклінічнае аддзяленне. Дагэтуль хворыя на Міёршчыне пераносілі адчувальныя цяжкасці, бо старая бальніца працавала ў 11 памяшканнях, размешчаных у розных кутках горада.

## Пастаўскі раён

# Бяда не прыходзіць адна

■ Кастусь Александровіч

**Здавалася б, што пасля заканчэння халадоў розных вогненных здарэнняў павінна быць меней, а на практыцы выходзіць наадварот.**

Вось і ў Пастаўскім раёне зімой пажары фіксаваліся рэдка, а ў красавіку яны пасыпаліся адзін за другім з-за неасцярожнасці насельніцтва пры абыходжанні з агнём. Спачатку раніцай у цагляным доме ў райцэнтры паваліў густы дым, а калі супрацоўнікі райаддзела па надзвычайных сітуацыях прыбылі туды, яны знайшлі труп 55-гадовай гаспадыні, інваліда другой групы. Крыху пазней ужо ноччу ў службовым гаражы недарэчна загінуў 40-гадовы вадзіцель Навасёлкаўскай ўрачэбнай лабараторыі. Як і папярэдняя ахвяра, ён задыхнуўся ў моцным дыме. У памяшканні ў той момант на першым паверсе знаходзілася жанчына-вартаўнік, але яна змагла пакінуць амбулаторыю і выклікаць на дапамогу пажарных. Як і ў шэрагу іншых месцаў краіны, на Пастаўшчыне з-за выпальвання сухой расліннасці пагарэльцамі сталі некалькі жыхароў краю. Падчас такіх палаў моцны вецер прынёс агонь і на хату 92-гадовай пенсіянеркі з вёскі Русакі. З вогненнай пасткі суседзі старую вывелі, але на старасці гадоў яна засталася без даху над галавой. Падобны шок перажыў праз два дні і жыхар вёскі Ажарцы, што харктэрна з Навасёлкаўскага сельсавета. У саміх Паставах з-за пакінутай без нагляду электрапліты прыйшлося праводзіць днём эвакуацыю жыхароў шматпавярховага інтэрната па вуліцы Касманаўтаў. На шчасце, ніхто з людзей не пацярпеў, але адзін з пакояў быў сур'ёзна пашкоджаны агнём.

# ЭПОХА БРАТОЎ КАСТРА ЗАКОНЧЫЛАСЯ, АЛЕ ЗМУЧАНЫМ БАРАЦЬБОЙ ЗА ВЫЖЫВАННЕ КУБІНЦАМ РАЗЛІЧВАЦЬ НА СТАНОЎЧЫЯ ПЕРАМЕНЫ НЕ ВЫПАДАЕ



■ Аляксандр Цішкевіч.

**Наша краіна мае планы больш актыўна ўдзельнічаць у далейшым развіцці вострава Кубы, разам з кубінцамі супрацоўнічаць і з іншымі дзяржавамі Лацінскай Амерыкі і Карыбскага басейна. А. Лукашэнка хоча туды зноў паехаць з афіцыйным візітам і пабываць на магіле Фідэля.**

У гэтым свеце няма нічога вечнага, самым дзіўным працэсам і працяглым гістарычным падзеям абавязкова надыдзе канец. Беларускія СМІ даволі сціпла паведамілі напрыканцы красавіка аб неверагоднай змене ўлады на Кубе, дзе аднапартыйнай камуністычнай краінай амаль 60 гадоў нязменна кіравала з 1959 года дынастыя братоў Кастра. І вось на пасяджэнні іх псеўдапарламента – Нацыянальнай ассамблеі, канешне ж, аднагалосна новым старшынёй дзяржсавета і Савета міністраў быў прызначаны 57-гадовы Мігель Дзіас-Канель. З гэтай нагоды на вуліцах Гаваны асаблівай радасці і ажыўлення не назіралася, бо простыя людзі заклапочаны зусім іншым, думаюць найперш, дзе набыць прадукты і з чаго зварыць суп, бо кубінцам жывецца вельмі няпроста.

Калі разабрацца, не была ніколі гэта краіна "востравам свабоды", а хутчэй праклятым месцам на свеце, дзе з трэскам праваліўся чарговы сацыялістычны эксперымент з планавай эканомікай. Гэты палітычны лад не толькі абмежаваў там палітычныя свабоды грамадзян, але і ператварыў субтрапічны край у няшчасную бедную дзяржаву, адкуль збеглі каля 2 млн. кубінцаў пераважна ў Фларыду. У сярэднім цяпер там людзі зарабляюць 31 долар у месяц, калі для параўнання, то ў суседніх ЗША сярэднямесячная дапамога па беспрацоўю складае 460 USD. Больш 40 долараў у месяц на Кубе не можа зарабіць нават кваліфікаваны спецыяліст, і да таго ж на востраве дзейнічае двайная валютная сістэма і розныя абменныя курсы, што і ў нас не так даўно назіралася.

Як і ў іх саюзніка на кантыненце – Венесуэлы, у кубінскіх магазінах – шаром пакаці, на прылаўках пуста, татальны дэфіцыт. Усё прыходзіцца ім, як раней савецкім людзям, даставаць па блаце. За хлебам, іншымі прадуктамі прыходзіцца стаяць у чэргах гадзінамі, бо яны размяркоўваюцца і выдаюцца па купонах, з-за чаго існуе татальны дэфіцыт туалетнай паперы, зубной пасты, мыла, і гэта ў XXI стагоддзі! Гэта краіна мае патрэбу ў кардынальных эканамічных рэформах і замежных інвестыцыях, бо і адносіны з амерыканцамі пры Д. Трампе зноў пагоршыліся, і ў асноўнага партнёра з Венесуэлы цяпер востры крызіс. Аднак большасць экспертаў сыходзяцца ў думках, што патрэбных змен на Кубе не будзе яшчэ і таму, што прэстарэлы Рауль Кастра да 2021 года будзе заставацца на чале мясцовай кампартыі.

Дзеля справядлівасці, малодшы з братоў Кастра некалькі гадоў назад рашыўся на правядзенне шэрагу асцярожных пераўтварэнняў, каб ягоны рэжым не рухнуў пад цяжарам эканамічных праблем. Для кубінцаў адмянілі некалькі дзіўных забарон: набываць нерухомасць, аўтамабілі і новыя кітайскія халадзільнікі, купляць тыя ж мабільныя тэлефоны без спецыяльнага дазволу ўлад. Галоўнае, што толькі ў 2010 годзе ім дазволілі займацца і 210 відамі прадпрымальніцкай дзейнасці і ў гэтай сферы занята ўжо звыш паўмільёна чалавек з 11,2 мільёнаў насельніцтва. Пайшлі ўлады і на тое, каб людзі маглі ўзяць у апрацоўку да 5 гектараў пустуючых участкаў зямлі, але без права перадачы яе нашчадкам.

У палітычнай сферы таксама адбыліся пэўныя паслабленні. З турмаў былі амніставаны і выпушчаны тысячы палітычных зняволеных, адмянілі выязныя візы за граніцу і спрасціўся ўезд на Кубу. Праўда, з 800 тысяч кубінскіх замежных турыстаў 11 % з іх не вярнуліся потым назад на радзіму. Добра і тое, што на Кубе стварылі і зону свабоднага гандлю і ўвялі абмежаванні на знаходжанне ва ўладзе 10 гадамі. Кубінцы вырашылі, што кіраваць урадам не можа чалавек старэй 60 гадоў, а генсек кампартыі ў 70 гадоў павінен пакідаць гэту пасаду. Глава Дзяржсавета павінен перавыбірацца праз 5 гадоў, і знаходжанне ва ўладзе абмяжоўваецца толькі двума тэрмінамі, у гэтым пытанні кубінцы беларусаў перайгралі.

Перад абноўленым кубінскім урадам цяпер стаяць неадкладныя задачы, найперш выхаду на адзіную валютную сістэму. Вось толькі такі пераход можа выклікаць спачатку вялікую інфляцыю і балюча ўдарыць па дзяржаўных кампаніях пасля падзення сусветных цэн на асноўныя экспартныя тавары – цукар і нікель. Як бы там ні было, але адзінае відавочна: канец эры абсалютнага панавання братоў Кастра наступіў. Змяніліся тры пакаленні кубінцаў, якія мала чаго светлага бачылі ў жыцці акрамя штодзённых праблем. Мільёны людзей проста стаміліся там ад горкай рэчаіснасці, расчараваліся ў ідэалах сацыялістычнай "рэвалюцыі".

Між тым, два гады назад новы кубінскі лідар знаходзіўся з афіцыйным візітам у Беларусі, прапанаваў пашырыць двухбаковыя партнёрскія сувязі. Аднак Куба для нас далёкі і не вельмі важны партнёр, аб'ём двухбаковага тавараабароту малы, меней 50 млн. долараў. А суседняй Расіі ўвогуле прыйшлося спісаць з кубінцаў звыш 31 млрд. долараў знешняга доўгу, бо няма ніякай магчымасці яго вярнуць. Наша краіна мае планы больш актыўна ўдзельнічаць у далейшым развіцці вострава Кубы, разам з кубінцамі супрацоўнічаць і з іншымі дзяржавамі Лацінскай Амерыкі і Карыбскага басейна. А. Лукашэнка хоча туды зноў паехаць з афіцыйным візітам і пабываць на магіле Фідэля.

## Надвор'е ў Глыбокім

www. rp5ru

| | Чацвер 03.05.18 | | | | Пятніца 04.05.18 | | | | Субота 05.05.18 | | | | Нядзеля 06.05.18 | | | | Пн.07. |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Мясцовы час | 03 | 09 | 15 | 21 | 03 | 09 | 15 | 21 | 03 | 09 | 15 | 21 | 03 | 09 | 15 | 21 | 03 |
| Хмарнасць | | | | | | | | | | | | | | | | | |
| Ападкі | | | | | | | | | | | | | | | | | |
| Тэмпература | +8 | +14 | +22 | +19 | +16 | +19 | +25 | +17 | +12 | +12 | +15 | +11 | +9 | +12 | +18 | +14 | +12 |
| Ціск | 750 | 751 | 749 | 748 | 748 | 749 | 749 | 750 | 751 | 752 | 753 | 754 | 754 | 754 | 753 | 752 | 750 |
| Вецер м/сек | 2 | 4 | 5 | 4 | 4 | 3 | 3 | 4 | 4 | 5 | 5 | 3 | 3 | 5 | 5 | 3 | 3 |
| | У | Пд-У | Пд-У | Пд-У | Пд | Пд-З | Пд-З | Пн | Пн | Пн | Пн | Пн | Пн | Пн-У | Пн-У | Пн-У | Пн-У |
| Вільготнасць | 92 | 70 | 47 | 75 | 92 | 74 | 39 | 75 | 84 | 67 | 53 | 53 | 74 | 68 | 37 | 61 | 78 |

## Дзень за днём

**Інфляцыя ў сакавіку склала 5,4 % у гадавым вымярэнні. У І-м квартале беларусам пабудавалі звыш 10 тысяч новых кватэр. У Беларусі ўдасканалілі аплату працы бюджэтнікаў. Сусветныя прафсаюзы заклікалі ўрад краіны адмяніць дэкрэт "аб дармаедах". Расія абвінаваціла Беларусь у фальсіфікацыі статыстыкі паставак з трэціх краін. Міністэрства замежных спраў Беларусі рашуча асудзіла авіяўдары кааліцыі на чале з ЗША па Сірыі. Падчас "Тыдня лесу" ў Беларусі прыбавілася на 18 мільёнаў маладых дрэўцаў. У Мінску з'явілася бясплатная сетка Wi-Fi. Хакеістам беларускай экстралігі ў 2 разы зменшылі заробкі.**

# Важнейшыя навіны свету

**ЗША.** Прэзідэнт Д. Трамп заявіў, што Расія павінна вырашыць, застанецца яна з цёмнымі сіламі альбо далучыцца да цывілізаванага свету, удары па Сірыі былі выкананы добра.

**Францыя.** Спецслужбы краіны абвінавацілі ў хімічнай атацы ў сірыйскім горадзе Дума армію Б. Асада, ЕС не выключыў увядзенне новых санкцый супраць Сірыі.

**Сірыя.** Пентагон заявіў, што сірыйская сістэма супрацьпаветранай абароны неэфектыўная, не збіла ніводнай ракеты саюзнікаў падчас начнога ўдару да Дамаску і Хомсу.

**Украіна.** Прэзідэнт П. Парашэнка пацвердзіў, што Украіна афіцыйна выйдзе з СНД, бо гэта арганізацыя не прадухіліла расійскую агрэсію ў Крыме і на Данбасе.

**ЗША.** Мы ўвядзём новыя санкцыі, як пацвердзіў прэзідэнт Д. Трамп, калі Расія сапраўды гэтага заслужыць, перад гэтым правалілася спроба атакі рускіх наёмнікаў на сілы ЗША.

**Германія.** З-за моцнага супраціўлення ў краіне канцлер А. Меркель марудзіць з падтрымкай амбіцыйных планаў прэзідэнта Францыі Э. Макрона па рэфармаванні ЕС.

**Арменія.** У цэнтры Ерэвана падчас акцый пратэсту супраць прызначэння главой урада С. Саргсяна ў ходзе сутычак з паліцыяй пусцілі слезацечны газ, былі параненыя.

**Куба.** На пасяджэнні парламента краіны адзіным кандыдатам на замену 86-гадовага главы дзяржавы Р. Кастра вылучылі 57-гадовага інжынера па адукацыі Мігеля Дыяс-Канеля.

**Малдова.** Прэзідэнт І. Дадон паведаміў, што неўзабаве адкрыецца прамы авіярэйс Мінск-Кішынёў, у краіне наладзяць таксама зборку беларускіх аўтобусаў.

**Францыя.** Дэпутаты Еўрапарламента выказаліся за працяг "крытычнага дыялогу" ў адносінах з Беларуссю, заклікалі яе ўлады ўвесці мараторый на пакаранні смерцю.

**Польшча.** Паўторная праверка Мінабароны выявіла, што перад палётам Ту-154 М у Смаленск не была праверана загружаная ноччу тона запчастак, самалёт пазней разбіўся.

**Расія.** Крэмль не падтрымаў ідэю аб прадастаўленні аўтакефаліі Украінскай праваслаўнай царкве, Украіна папрасіла аб гэтым Канстанцінопальскага патрыярха Варфаламея.

**Швецыя.** Да аэрапорта ў Стакгольме пабудавалі інавацыйную дарогу, якая зараджае электрааўтамабілі падчас руху, кошт 1 км такой трасы складае 1 млн. еўра.

**Азербайджан.** Яшчэ на 7 гадоў прадоўжылі паўнамоцтвы прэзідэнта І. Аліева пасля перамогі на выбарах з 86,09 % галасоў, такой падтрымкі няма ў У. Пуціна і А. Лукашэнкі.

**Кыргыстан.** У краіне пачаўся палітычны крызіс, бо новы прэзідэнт С. Жээнбекаў правёў чыстку кадраў у сілавых структурах і ў сферы юстыцыі, замешаных у карупцыі.

# Падзеі, пра якія гаворыць Беларусь

**Мінск.** Сусветны банк папярэдзіў, што адставанне Беларусі ад ўзроўню развіцця суседзяў будзе расці з-за больш нізкіх тэмпаў развіцця яе эканомікі і нестабільнасці ў Расіі.

**Барысаў.** Здзеклівыя дзеянні трох сяржантаў у Пячах, як заявілі следчыя, прывялі да самагубства радавога А. Коржыча, яго маці будзе дабівацца сустрэчы з А. Лукашэнка.

**Мінск.** Па выніках 2018 года, як заявіў эканаміст Я. Раманчук, рост ВУП Беларусі знізіцца з-за моцнай прывязкі эканомікі да Расіі, на якую паўплываюць дрэнна санкцыі Захада.

**Баранавічы.** У буйным горадзе стала яшчэ больш напружанай сітуацыя на рынку працы, у пачатку вясны тут было 617 афіцыйных беспрацоўных, цяжка з работай і ў Брэсце.

**Брэст.** Супраць будаўніцтва завода па вытворчасці акумулятарных свінцовых батарэй сабралі звыш 37 тысяч подпісаў, але суд гэту будоўлю ля дачнага масіва не забараніў.

**Мазыр.** На май-чэрвень запланавалі пробныя пастаўкі нафтапрадукцыі мясцовага НПЗ двума нафтаналіўнымі суднамі па 750 тон кожны па Прыпяці і Дняпру ў порт Кіева.

**Гомель.** Глава МУС Беларусі І. Шуневіч пацвердзіў арышт былога старшыні мясцовага райвыканкама А. Сітніцы за хабар, ён быў у вышуку і затрыманы на тэрыторыі Расіі.

**Смалявічы.** У Нацыянальным аэрапорце "Мінск" прызямліўся новы бразільскі самалёт Embraer-175 на 76 месцаў для пасажыраў, пабудаваны для авіякампаніі "Белавія".

**Магілёў.** Па неасцярожнасці вадзіцель пагрузчыка фірмы "Кранаспан АСБ" падчас працы на складзе драўніны не заўважыў і збіў насмерць калегу, начальніцу склада.

**Барысаў.** Эканаміст Л. Заіка заявіў, што новы аўтазавод "БелДжы" – гэта кітайскі партыйна-састарэлы праект, бо праз 20 гадоў яго машыны будуць нікому не патрэбны.

**Мінск.** Міністр жыллёва-камунальная гаспадаркі Беларусі А. Церахаў прызнаўся, што не ведае, як плаціць па жыроўцы за паслугі па поўным кошце, калі ў сям'і пражывае "дармаед".

**Астравец.** Урад Беларусі зацвердзіў міжнародны праект для забеспячэння бяспечнай і надзейнай эксплуатацыі ўзводзімай Беларускай АЭС пры супрацоўніцтве з МАГАТЭ.

**Ганцавічы.** Ноччу ў цэху па вытворчасці сухіх сняданкаў мясцовага хлебазавода адбыўся пажар, агонь знішчыў ленту транспрацёра, пашкоджанне было моцна закапцела.

**Магілёў.** На прэм'еру новай стужкі "Беларусьфільма" пра армію "Не гульня" сагналі столькі школьнікаў, што зала кінатэатра "Радзіма" не змагла змясціць усіх гледачоў.

**Салігорск.** На старце сезона фаварыт ФК "Шахцёр" адправіў у адстаўку галоўнага трэнера паляка М. Зуба і прызначыў кіравацць камандай расійскага спецыяліста С. Ташуева.

# Панарама ўнутрыабласных падзей

**Віцебск.** Кіраўніцтва вобласці падтрымала ідэю стварэння ў абласным цэнтры школы з беларускай мовай навучання, яна будзе выбрана, праўда, сярод невялікіх школ.

**Наваполацк.** У адказ на абмежаванні імпарту сернай кіслаты НПЗ "Нафтан" прыгразіў пакінуць украінскі рынак і яшчэ болей павялічыць яе пастаўкі ў краіны Прыбалтыкі.

**Сянно.** Тэлеканал СТБ паказаў сюжэт, як побач з фермай ААТ "Белянева" ў бліжэйшых кусты скідвалі тушы здохлых цялят і кароў, летась там быў падзеж 100 галоў.

**Талачын.** Глава вобласці М. Шарстнёў даручыў старшыні райвыканкама С. Ягораву штодзённа персанальна кантраліраваць сітуацыю ў ААТ "Звенячы", дзе шмат бардака.

**Віцебск.** У гаспадарках вобласці не хапае ўжо звыш паўтысячы спецыялістаў толькі ў сферы жывёлагадоўлі, на ўліку знаходзяцца амаль тры с паловай тысячы беспрацоўных.

**Полацк.** Пасля змен у заканадаўстве кампанія "Полацкі экспрэс" павысіла кошт праезду на сваіх маршрутках да Мінска з 8 да 10 рублёў, патлумачыўшы гэта падаражаннем паліва.

**Браслаў.** Абласны аператыўны штаб з удзелам мясцовых спецыялістаў пачаў працу па падрыхтоўцы аб'ектаў райцэнтра і ваколіц да абласных "Дажынак-2019".

**Орша.** Следства выявіла, што 47-гадовы жыхар вёскі Хімінічы, які параніў нажом міліцыянера і напаў на яго калегу, аказаўся псіхічна не здаровы, ён арыштаваны.

**Віцебск.** Пры сілавой падтрымцы АМАПа міліцыя затрымала двух крымінальных "аўтарытэтаў" рэгіёна, адзін з іх з'яўляўся "сматрачым" за Віцебскам.

**Глыбокае.** Каля гадзіны дня падчас пажару на ферме ААТ "Глыбоцкі райаграсервіс" у вёсцы Свядава эвакуіравалі 96 цялят, агонь знішчыў дах цялятніка.

**Віцебск.** Праверка Дзяржаўнага кантролю выявіла, што дырэктар прафліцэя прыцягваў падначаленых да рамонту сваёй дачы ў працоўны час і іншыя розныя парушэнні.

**Мёры.** Будаўнікі закончылі ўсе работы ў лячэбным корпусе і харчблоку новай раённай бальніцы, сюды ўжо завезлі сучасны лічбавы рэнтгенапарат, іншае медыцынскае абсталяванне.

**Паставы.** Біскуп Віцебскі А. Буткевіч асвяціў зямлю, дзе пачнецца побач з часовай капліцай будаўніцтва другога ў райцэнтры касцёла Езуса Міласэрнага.

**Расоны.** Частка сродкаў, заробленых на рэспубліканскім суботніку, пойдзе на аднаўленне і добраўпарадкаванне мемарыяльнага комплексу і музею баявой садружнасці ў райцэнтры.

**Віцебск.** З апёкамі цела 2-3 ступені патрапіў ў рэанімацыю абласной бальніцы 53-гадовы беспрацоўны, які выпіваў і няўдала падпаліў вогнішча ў лесапаркавай зоне горада.

*Служба інфармацыі "ВГ" (па звестках інфармагенцтваў і інтэрнэтрэсурсаў).*

# Віцебская вобласць у І квартале выканала 4 з 5 ключавых паказчыкаў эфектыўнасці работы

■ belta.by

**Віцебская вобласць па выніках студзеня-сакавіка выканала чатыры з пяці ключавых паказчыкаў эфектыўнасці работы, устаноўленыя ўрадам.** Аператыўную інфармацыю агучыла сёння на пасяджэнні аблвыканкама старшыня камітэта эканомікі Анжаліка Нікіціна падчас абмеркавання пытання сацыяльна-эканамічнага развіцця Віцебскай вобласці за мінулы перыяд 2018 года, перадае карэспандэнт БЕЛТА.

У прыватнасці, выкананы паказчыкі па тэмпах росту аб'ёму валавога рэгіянальнага прадукту; экспарту тавараў без уліку нафты і нафтапрадуктаў, рэспубліканскіх арганізацый; экспарце паслуг без уліку рэспубліканскіх арганізацый; прадукцыйнасці працы па валавым рэгіянальным прадукце.

Акрамя таго, за першы квартал чакаецца выкананне заданняў па працаўладкаванні грамадзян на зноў створаныя працоўныя месцы, зніжэння аб'ёмаў выдаткаў, па аб'ёмах вытворчасці імпартазамяшчальных тавараў, уводу жылля. Практычна ў поўным аб'ёме рэалізуюцца абавязацельствы, узятыя аблвыканкамам па плане развіцця рэгіёну на 2018 год. З ростам аб'ёмаў вытворчасці прадукцыі і паслуг у фактычных цэнах спрацавалі ўсе асноўныя галіны эканомікі. Захоўваецца станоўчая дынаміка росту вытворчасці прамысловай прадукцыі, індэкс прамысловай вытворчасці склаў 115,2%. Захоўваецца высокі працэнт адгружанай інавацыйнай прадукцыі. Палепшылася сітуацыя ў сельскай гаспадарцы, нарошчваюць вытворчасць інтэграцыйныя структуры. Павялічваюцца пастаўкі прадукцыі на экспарт: за студзень-сакавік продажы ўзраслі ў 1,2 разы.

За мінулы перыяд арганізацыямі вобласці асвоена каля Br368 млн інвестыцый у асноўны капітал, што складае 117,7% да аналагічнага перыяду мінулага года. Узведзена 24% ад гадавога задання па будаўніцтве жылля.

У цэлым па вобласці ўсе галіны эканомікі спрацавалі з прыбыткам ад рэалізацыі (чысты прыбытак па вобласці без уліку працы ААТ "Нафтан" склаў каля Br92 млн), станоўчую рэнтабельнасцю продажаў, за выключэннем будаўніцтва.

Характарызуючы вынікі працы за студзень-сакавік, старшыня аблвыканкама Мікалай Шарстнёў адзначыў, што меры, якія прымаюцца, даюць вынік. «Гэта сведчыць пра тое, што нас чуюць кіраўнікі, стратэгія, якая праводзіцца, ім зразумелая», - канстатаваў ён. Разам з гэтым губернатар акцэнтаваў увагу на неабходнасці задзейнічаць існуючыя рэзервы. «Практычна палова рэгіёнаў у нас сёння не працуе, яны цягнуць вобласць назад. Ёсць і прадпрыемствы, якія таксама цягнуць назад. Таму неабходна прыняць усе меры, каб задзейнічаць гэтыя рэзервы і падняць тым самым эфектыўнасць вытворчасці», - падкрэсліў ён. Пры гэтым асаблівы акцэнт неабходна зрабіць на дзейнасці эканамічных службаў, ад якіх залежыць планаванне і агульны вынік працы.




# У Глыбокім і Шаркоўшчыне адкрываюцца курсы беларускай мовы "Мова Нанова"

■ Уладзімір Скрабатун

**Слушныя, модныя, стылёвыя, бясплатныя курсы беларускай мовы "Мова Нанова" сталі папулярнымі па ўсёй Беларусі. Цяпер дайшла чарга да Глыбокага і Шаркоўшчыны.**

Прэзентацыя курсаў "Мова Нанова" ў Глыбокім адбудзецца 5 траўня, а 16-й гадзіне ў будынку колішняга суда (насупраць касцёла), пл. 17 Верасня. Запрашаюцца ўсе ахвотныя. Кантактны тэлефон: (029) 749-65-59 (Генадзь)

"МОВА НАНОВА" – бясплатныя курсы беларускай мовы. Існуюць са студзеня 2014 года. Запачаткаваныя ў Мінску філолагам Алесяй Літвіноўскай і журналістам Глебам Лабадзенкам. Таксама курсы дзейнічаюць у Астраўцы, Браславе, Бабруйску, Баранавічах, Барысаве, Брэсце, Віцебску, Гродне, Гомелі, Магілёве, Маладзечне, Рэчыцы, Светлагорску і Салігорску.

Штотыдзень курсы наведвае каля 650 студэнтаў. Ад кастрычніка 2014 года выдадзена больш за 2200 студэнцкіх білетаў.

У лістападзе 2014 года курсы атрымалі дзяржаўную рэгістрацыю як "Сацыяльна-культурная ўстанова развіцця беларускай мовы і культуры "Мова Нанова".

У чэрвені 2014 курсы Мова Нанова атрымалі Гран-пры фестывалю беларускамоўнай рэкламы ADNAK у намінацыі "Грамадсказначныя праекты".

Ўснежні 2014 года курсы перамаглі на конкурсе "Падзея года" на V фестывалі нефармальнай адукацыі.

Курсы «Мова нанова» – выдатная пляцоўка для тых, хто хацеў бы размаўляць па-беларуску, але па нейкіх прычынах не адважваецца ці не можа знайсці суразмоўцаў. Ды і наогул, хопіць сядзець у сацыяльных сетках, трэба выходзіць з дому і знаёміцца з цікавымі людзьмі. Сярод наведвальнікаў курсаў людзі рознага ўзросту і сацыяльнага статусу: школьнікі, студэнты, дарослыя, пенсіянеры. Суразмоўцу тут можа знайсці кожны.

Падчас заняткаў пануе сяброўская атмасфера. Ніхто нікога не прымушае адказваць на пытанні па граматыцы або прымаць удзел у творчых заданнях. Адначасова кожны ахвотны можа выказацца, распавесці пра свае ўражанні ці штосьці прапанаваць. Любая ініцыятыва вітаецца!

Курсы "Мова Нанова" – больш чым проста курсы беларускай мовы. Гэта фішка, якая перакуліць Ваша жыццё!



**Глеб ЛАБАДЗЕНКА**, выкладчык курсаў "Мова Нанова".

Скончыў Коласаўскі ліцэй, БДУ (журфак). Аўтар кніг "Пагер-вершы" (2005), "дзіцячая заМова" (2013, 2015), "дзіцячая заМова-2" (2015). Укладальнік кніг "Уладзімір Караткевіч. Ладдзя Роспачы (непадцэнзурнае выданне)" (2010), "Рыгор Барадулін. Лепей (кніга рукапісаў)" (2013).

Працаваў карэспандэнтам у газеце "Комсомольская правда" в Беларуси" (2004-2008), "Звязда" (2009-2011).

Працуе рэдактарам у выдавецтве, экскурсаводам.



**Бясплатныя курсы беларускай мовы "Мова Нанова".** Ілюстрацыйнае фота.

■ Уладзімір Скрабатун

Запрашэнне на выставу

# Беразвецкая царква – перліна архітэктуры, неацэнная страта для ўсёй Беларусі і, перадусім, для Глыбокага

Ў Глыбоцкім касцёле адкрылася цікавая выстава, прысвечаная беразвецкаму манастыру.



**Царква Пятра й Паўла ў Беразвеччы. Макет – 1:100, выкананы Юрыем Калбасічам.** *Фота Ул. Скрабатуна.*

Яе могуць наведаць усе ахвотныя, у тым ліку і праваслаўныя. Выстава будзе доўжыцца месяц.

Мерапрыемства прымеркавана да 380-х угодкаў тэстамента (завяшчання) Язэпа Корсака, які зацвердзіў кароль Рэчы Паспалітай Уладзіслаў IV. Паводле яго 30 красавіка 1638 года Корсак уфундаваў у Беразвеччы базыльянскі манастыр імя свсв. Пятра й Паўла і надаў яму маёнтак Беразвечча з шасцю вёскамі і Вярболаў на Сувальшчыне. А таксама на 130-я ўгодкі (11.01. 1889 г) хрышчэння Язэпа Драздовіча ў глыбоцкім касцёле св. Тройцы. Такі дакумент знойдзены нядаўна.

Як спалучаюцца гэтыя дзве розныя, на першы погляд, даты? Спалучаюцца! Язэп Драздовіч пакінуў дзясяткі малюнкаў беразвецкага манастыра. Некаторыя на выставе паказаны шырокаму колу ўпершыню, і, дарэчы, без права капіявання, і перадачы выяў трэцім асобам – такая ўмова Навуковай бібліятэкі імя Якуба Коласа НАН. І каб іх атрымаць для выставы – ксёндз напісаў адпаведную гарантаваную заяву ў НАН.

Ініцыятар выставы – Юрый Калбасіч, выкладчык малявання ў дзіцячай мастацкай школе імя Я. Драздовіча, экскурсавод па глыбоцкаму Кафедральнаму сабору, краязнаўца. Менавіта ён зрабіў з кардона і паперы паменшаную копію беразвецкай царквы ў маштабе – 1:100. Копія знаходзіцца на выставе. Дапамаглі Юрыю зладзіць выставу фатограф Леанід Юрык, а таксама журналіст Зміцер Лупач.

Нагадаем, беразвецкая царква Пятра й Паўла – шэдэўр еўрапейскай архітэктуры. Пра яе згадвае такое фундаментальнае выданне, як "Всемирная история архитектуры". Па словах пісьменніка Уладзіміра Арлова, у падручніках па архітэктуры для амерыканскіх студэнтаў адзначана і беразвецкая царква Пятра й Паўла, як адзін з самых яскравых прыкладаў архітэктуры стылю віленскае барока.

Беразвецкую царкву знеслі па ініцыятыве глыбоцкіх "дэпутатаў працоўных", хадайніцтва якіх у 1949 годзе задаволіў тагачасны Полацкі абласны савет "дэпутатаў працоўных".

Неаднойчы ў прэсе і на краязнаўчых канферэнцыях выказвалася меркаванне наконт мэтазгоднасці аднаўлення будынка беразвецкай царквы. Як кажуць гісторыкі архітэктуры – для гэтага ў нас усё ёсць: і чарцяжы ў архівах, і фотаздымкі, і малюнкі…



**На выставе ў глыбоцкім касцёле св. Тройцы.** *Фота Ул. Скрабатуна.*

■ Н.Ю. Чабатаронак,
*памочнік урача-эпідэміёлага Глыбоцкага РЦГЭ*

# На 3 красавіка ў Беларусі было зафіксавана каля 40 выпадкаў захворвання на адзёр — у Брэсцкай, Гомельскай і Гродзенскай абласцях

Сярод краінаў, дзе цяпер можна заразіцца адзёрам, — Украіна, Італія, Румынія, Сербія, Вялікая Брытанія, Грэцыя, Германія, Латвія, Польшча, Францыя і Швецыя.

### Прафілактыка адзёру

Адзёр (корь) вядомы чалавецтву з часоў глыбокай старажытнасці. Да пачатку вакцынацыі адзёр па частаце рэгістрацыі займаў адно з першых месцаў, саступаючы толькі вострым рэспіраторным захворванням і грыпу. Беларусь у 2016 годзе атрымала статус краіны, у якой элімініраваны адзёр. Гэта значыць, што мясцовай інфекцыі няма, рэгіструюцца толькі завезеныя выпадкі. Шмат у чым гэтаму спрыяла планавая імунізацыя супраць адзёру, бо яна з'яўляецца адзіным «бар'ерам» на шляху інфекцыі.

### Што такое адзёр?

Адзёр (корь) — інфекцыйнае захворванне, якое выклікаецца вірусам адзёру. Для гэтай інфекцыі характэрная амаль 100% успрымальнасць — то бок, калі чалавек, які раней на адзёр не хварэў і не прышчэплены, будзе кантактаваць з хворым на адзёр — верагоднасць захварэць надзвычай высокая. Вось чаму так важна строгае выкананне тэрмінаў вакцынацыі.

### Як можна заразіцца на адзёр?

Крыніца інфекцыі – хворы чалавек. Шлях перадачы інфекцыі – паветранакропельны. Вірус выдзяляецца ў навакольнае асяроддзе з кропелькамі сліны пры размове, падчас кашлю, чхання. Вірус вельмі лятучы – з патокам паветра, ён можа трапляць у суседнія памяшканні і нават на іншыя паверхі будынка праз вокны, вентыляцыю, замочныя шчыліны, таму заразіцца можна, проста знаходзячыся ў адным доме з хворым. Пасля перанесенага захворвання ў здаровым захоўваецца пажыццёвы імунітэт. Асобы, якія не хварэлі на адзёр і не прышчэпленыя супраць яго, застаюцца высока ўспрымальнымі да адзёру на працягу ўсяго жыцця і могуць захварэць у любым узросце.

### Сімптомы адзёру

Адзёр пачынаецца як вострая рэспіраторная інфекцыя. У першыя дні хваробы падымаецца тэмпература, часта вышэй 38° С. Пачынаецца насмарк, кашаль, кан'юктывіт (запаленне слізістай абалонкі вока). Хворы чалавек можа скардзіцца на боль у вачах пры яркім святле. На другі дзень ад пачатку захворвання на слізістай поласці рота ў вобласці жавальных зубоў праступаюць плямы белага колеру. На чацвёрты дзень з'яўляюцца высыпанні (экзантэма) на целе. Сып пачынае з'яўляцца на твары і шыі, затым распаўсюджваецца на рукі, тулава і ногі. Сып моцная, элементы яркія, буйныя, схільныя да зліцця, скура вакол звычайнай афарбоўкі. Высыпанні суправаджаюцца павышэннем тэмпературы, узмацненнем насмарку і кашлю. Як правіла, сып з'яўляецца ў працягу 4 дзён. Затым яна мяняе колер, становіцца не такой яркай, з'яўляецца пігментацыя, якая паступова бляднее і знікае праз тыдзень.



### Ускладненні

Найбольш частае ўскладненне адзёру – пнеўманія. Таксама могуць сустракацца ларынгіты, ларынгатрахеабранхіты, стаматыты. Менінгіты, менінгаэнцафаліты і поліневрыты часцей назіраюць у дарослых. Найбольш грозным ускладненнем бывае адзёравы энцэфаліт. На жаль, ускладненні пры адзёру не такія ўжо рэдкія, таму лячэнне захворвання павінна праводзіцца строга пад медычным кантролем.

### Прафілактыка

Надзейным і эфектыўным метадам прафілактыкі адзёру з'яўляецца вакцынацыя. Прышчэпка ад адзёру — гэта, па сваёй сутнасці, штучнае інфікаванне вірусам, але вельмі аслабленым, у выніку якога арганізм выпрацоўвае ахоўны імунітэт. Згодна з Нацыянальным календаром прафілактычных прышчэпак вакцынацыя супраць адзёру праводзіцца дзецям ва ўзросце 1 года, рэвакцынацыя ў 6 гадоў. Пажыццёвы імунітэт супраць адзёру, як, зрэшты, і іншых інфекцыйных захворванняў, выпрацоўваецца толькі ў выпадку, калі чалавек перанёс хваробу. Разам з тым, вакцынацыя, хай і не дае абсалютнай абароны, хоць такое развіццё падзей сустракаецца рэдка, значна зніжае верагоднасць ускладненняў, ды і хвароба будзе працякаць у лёгкай форме. Калі вы ці вашы блізкія плануеце выезд за мяжу, асабліва ў краіны, дзе сітуацыя з захворваннем на адзёр нядобранадзейная, то гэта неабходна ведаць:

– калі ў вас ці ў вашых дзяцей ёсць звесткі ў лячэбна-прафілактычнай установе па месцы жыхарства аб дзвюх прышчэпках або вы перахварэлі на адзёр, паўторна вакцынавацца не трэба;

– калі ж у вас няма звестак аб прышчэпках або ёсць звесткі толькі аб адной, вы не хварэлі на адзёр, то вакцынавацца патрэбна абавязкова. Імунітэт пасля прышчэпкі выпрацоўваецца як мінімум праз два тыдні. Таму, калі вам неабходна вакцынавацца, зрабіце гэта загадзя.

■ Л. Катовіч,
*памочнік урача эпідэміёлага Глыбоцкага РЦГЭ.*

# У 2017 годзе ў Глыбоцкім раёне ад укусаў кляшчоў пацярпела 76 чалавек

Яны пільнуюць нас у лесе і на лузе!

Наступаюць цёплыя вясновыя дні і пасля зімы хочацца пабыць на свежым паветры, папесціцца пад цёплымі промнямі вясновага сонца. Хтосьці збіраецца папрацаваць на дачы, нехта проста пабываць у лесе або каля ракі ці возера. Але трэба памятаць, вясной актывізуюцца і разнастайныя крывасмактальныя казуркі, сярод якіх і кляшчы, яны пільнуюць нас у лесе і на лузе.

Кляшчы з'яўляюцца пераносчыкамі розных інфекцыйных захворванняў, найбольш распаўсюджанымі сярод іх з'яўляюцца – клешчавы энцэфаліт і клешчавы барэліёз (Хвароба Лайма).

Клешчавы энцэфаліт – вірусная інфекцыя, якая паражае цэнтральную і перыферычную нервовую сістэму. Хвароба пачынаецца востра, праяўляецца дрыжыкамі, галаўным болем, млоснасцю, ванітамі, галавакружэннем, ныючымі болямі ў канечнасцях Наступствы захворвання разнастайныя – ад поўнага выздараўлення да парушэння здароўя, якія прыводзяць да інваліднасці або смерці.

Лайм-барэліёз (хвароба Лайма) – гэта бактэрыяльнае прыроднаачаговае захворванне з разнастайнасцю клінічнай карціны, часцей за ўсё характарызуецца праявай выразнай чырвонай плямы на скуры (эрыцемы) і пераходзячае ў хранічнае захворванне, у выпадку адсутнасці лячэння. Для Лайм-барэліёзу больш характэрныя паражэнні скуры, суставаў, сэрца і нервовай сістэмы. Перадача ўзбуджальнікаў клешчавых інфекцый адбываецца пры ўкусе інфікаванага кляшча. Акрамя таго, клешчавым энцэфалітам можна заразіцца, ужываючы некіпячонае казінае малако.

Варта мець на ўвазе, што верагоднасць захворвання на клешчавы энцэфаліт, клешчавы барэліёз і іншымі інфекцыямі, якія перадаюцца кляшчамі, залежыць ад колькасці мікраарганізмаў, якія пракраліся ў арганізм пацярпелага пры ўкусе кляшча, а гэта ў сваю чаргу залежыць ад часу, на працягу якога клешч знаходзіўся ў прысмактаным стане, таму чым раней вы выдаліце прысмактанага паразіта, тым лепш.

Па дадзеных аператыўнага маніторынгу ў 2017 годзе ў Глыбоцкім раёне ад укусаў кляшчоў пацярпела 76 чалавек, што на 34.4% ніжэй, чым у 2016 годзе (116 чалавека). У 2017 годзе зарэгістравана 3 выпадкі захворвання на Лайм-барэліёз (усе гарадскія жыхары), у выніку эпіддаследавання ўстаноўлена, дадзеныя пацярпелыя за меддапамогу не звярталіся.



Пры выяўленні на целе кляшча, які прысмактаўся, варта звярнуцца ў бліжэйшую арганізацыю аховы здароўя, дзе акажуць медыцынскую дапамогу. Калі немагчыма неадкладна звярнуцца за дапамогай, варта выдаліць кляшча самастойна пятлёй з баваўнянай ніткі, апрацаваўшы месца ўкусу любым спіртзмяшчальным сродкам. Пасля выдалення кляшча варта звярнуцца ў амбулаторнапаліклінічную арганізацыю па месцы жыхарства для ўліку і правядзення прафілактычнага лячэння хваробы Лайма, як найбольш шырока распаўсюджанай у рэспубліцы клешчавай інфекцыі.

Збіраючыся ў лес, на пікнік паспрабуйце абараніць сябе ад нападу кляшчоў: надзеньце светлую вопратку з доўгімі, шчыльна прылеглымі да запясця рукавамі; штаны запраўце ў шкарпэткі; абавязкова надзеньце галаўны ўбор; апрацуйце вопратку рэпелентамі, якія адпужваюць кляшчоў, праводзьце само і ўзаемаагляды.

# Затрыманыя работнікі Глыбоцкай міжраённай інспекцыі аховы жывёльнага і раслiннага свету

■ Сяржук Серабро

**24 красавіка па падазрэнні ў здзяйсненні карупцыйных злачынстваў міліцыя затрымала траіх службовых асоб Глыбоцкай міжраённай інспекцыі аховы жывёльнага і раслiннага свету.**

Затрыманне праводзілі супрацоўнікі Пастаўскага РАУС і ўпраўлення па барацьбе з эканамічнымі злачынствамі УУС Віцебскага аблвыканкама пры сілавой падтрымцы АМАП. Трох службовых асоб інспекцыі падазраюць, што яны дапамагалі браканьерам пазбягаць пакарання.

***— У ходзе адпрацоўкі аператыўнай інфармацыі і працы са сведкамі былі атрыманы звесткі аб датычнасці гэтых асоб да супрацьпраўнай дзейнасці. Устаноўлены факты атрымання імі хабараў ад браканьераў за добразычлівае да іх стаўленне і рашэнне пытанняў,*** — распавёў СМІ начальнік УБЭП УУС Віцебскага аблвыканкама Аляксей Зімін.

Як устанавіла міліцыя ў ходзе аператыўна-вышуковых мерапрыемстваў, на працягу доўгага перыяду часу, знаходзячыся на тэрыторыі Глыбоцкага і Пастаўскага раёнаў, супрацоўнікі інспекцыі, перавышаючы службовыя паўнамоцтвы, пры выяўленні і спыненні парушэнняў прыродаахоўнага заканадаўства браканьерамі, якія займаюцца незаконным паляваннем і рыбалкай, дапамагалі ім пазбегнуць устаноўленай законам адказнасці, паведамляе прэс-служба УУС Віцебскага аблвыканкама.

Упраўленне Следчага камітэта па Віцебскай вобласці ўзбудзіла крымінальную справу па частцы 2 артыкула 426 КК — перавышэнне ўлады або службовых паўнамоцтваў, учыненае з карыслівай ці іншай асабістай зацікаўленасці. Усіх траіх затрыманых змясцілі ў ізалятар часовага ўтрымання.

Цяпер праваахоўнікі праводзяць аператыўныя і следчыя мерапрыемствы па дакументаванні супрацьпраўнай дзейнасці гэтых службовых асоб.

# Не ўмееш плаваць – не садзіся ў лодку і не карыстайся надзіманымі матрацамі!

■ А.І. Гігола,
*начальнік аддзела аховы правапарадку і прафілактыкі Глыбоцкага РАУС*

На тэрыторыі раёна пачало ўсталёўвацца цёплае надвор'е, жыхары і госці нашага горада ў вольны час выязджаюць за горад, каб адпачыць, аднавіць сілы на ўлонні прыроды. Часта, знаходзячыся на адпачынку, яны забываюць аб мерах бяспекі на вадзе, што прыводзіць да трагічных наступстваў, разводзяць вогнішчы ў пажаранебяспечных месцах, займаюцца незаконнай высечкай лесу і лоўляй рыбы, што ператварае іх у правапарушальнікаў. Найбольш часта фіксаваныя ў месцах масавага адпачынку грамадзян правапарушэнні: распіццё алкагольных, слабаалкагольных напояў або піва ў грамадскім месцы альбо з'яўленне ў грамадскім месцы ў стане ап'янення (арт. 17.3 КоАП РБ) цягне накладанне штрафу ў памеры да 8 базавых велічынь, у выпадку паўторнага здзяйснення на працягу года — ад дзвюх да пятнаццаці базавых велічынь або адміністрацыйны арышт, таксама хочацца сказаць аб тым, што не трэба знішчаць тую маёмасць, якая Вам прадастаўляецца для адпачынку (альтанкі, лаўкі, распранальні і г.д.), дадзенае дзеянне прадугледжвае адміністрацыйную адказнасць па арт. 10.9 КоАП штрафу да 50 базавых велічынь .

У 2017 годзе на тэрыторыі Віцебскай вобласці ў вадзе загінула 75 чалавек, з іх 5 непаўналетніх. Асноўнымі прычынамі гібелі людзей на водах з'яўляюцца – купанне ў вадаёмах, не прызначаных для гэтых мэтаў, купанне ў нецвярозым стане, бескантрольнасць з боку бацькоў прыводзіць да страты іх дзяцей. У пазбяганне няшчасных выпадкаў, страты блізкіх Вам людзей і дзяцей, паспрабуйце выконваць наступныя правілы і меры бяспекі на водах: Небяспечна купацца ў нецвярозым стане, у забароненых і неўстаноўленых для гэтага месцах, выходзіць у плаванне на няспраўнай або неабсталяваных выратавальнымі сродкамі лодцы, сядзець на яе бартах, перасаджвацца з месца на месца або з адной лодкі ў другую падчас руху. Тым, хто не ўмее плаваць – нельга, карыстацца лодкамі, надзіманымі сродкамі, іншымі прадметамі, не абсталяванымі адмысловымі прыстасаваннямі для плавання.



Нельга купацца ў адзіночку, у цёмны час сутак, пры моцных хвалях.

Не скачыце ў ваду ў месцах з невядомай глыбінёй і рэльефам дна.

Не заплывайце далёка ад берага, разлічвайце свае сілы.

Не пакідайце дзяцей ля вадаёмаў без нагляду.

Не скачыце ў ваду з дамбаў, прыстаняў, катараў, лодак;

Не падаваць ілжывыя сігналы бедства;

Выкананне ўказаных правіл уратуе Ваша жыццё і жыццё Вашых блізкіх.

# Урад вызначыў пералік ЖКП, што аплачваюцца не занятымі ў эканоміцы па поўным кошце

**Урадам вызначаны паслугі, якія прадастаўляюцца працаздольным грамадзянам, не занятым у эканоміцы, па цэнах (тарыфах), што забяспечваюць поўнае кампенсаванне эканамічна абгрунтаваных затрат на іх аказанне, а таксама ўмовы іх прадастаўлення. Адпаведнае рашэнне замацавана пастановай Савета Міністраў Беларусі ад 24 красавіка 2018 года нумар 314, паведамляе БелТА са спасылкай на сайт урада.**



Грамадзяне, уключаныя ў спіс працаздольных грамадзян, не занятых у эканоміцы, аплачваюць па цэнах (тарыфах), што забяспечваюць поўнае кампенсаванне эканамічна абгрунтаваных затрат на аказанне паслуг, гарачае водазабеспячэнне (з 1 студзеня 2019 года), газазабеспячэнне пры наяўнасці індывідуальных газавых абагравальных прыбораў і цеплазабеспячэнне (з 1 кастрычніка 2019 года).

*БелТА.*

